# СВАБОДА

№ 1—15 сьнежня 1993 г.

Кошт 30 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец
**«Газэта СВАБОДА», Ltd**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск,**
**вул. Іванаўская, 56**


## Ці пагражае Беларусі выбар Расеі?

Здаецца, беларускаму паслу ў Нямеччыне Пятру Садоўскаму сёньня пагражае небясьпека. Яшчэ паўтара гады таму адзін расейскі грамадзянін прысьпрашаў яго, што «павесіць уніз галавой», — за тое, што дэпутат Садоўскі «непачціва» паставіўся да нахабных спробаў гэтага грамадзяніна праскочыць у залю Вярхоўнага Савету Беларусі. Цяпер гэты самы грамадзянін пасьпяхова пралез у свой парлямант — стаў дэпутатам І-й Дзяржаўнай думы Расеі. Прычым не адзін, а з усёй сваёй «лібэральна-дэмакратычнай» гвардыяй. Так што ўсе, хто «крыўдзіў» грамадзяніна Расеі №1 Уладзімера Жырыноўскага, — хавайся!

А калі сур'ёзна — нічога надта нечаканага ня здарылася. Такі ён, выбар Расеі. «Старшы брат» прагаласаваў за чалавека, які паабяцаў «вярнуць страчаныя тэрыторыі» і за тры дні ўсіх зрабіць багатымі. І невядома, што найболып дапамагло Жырыноўскаму сабраць галасы — імпэрская ідэя ці дэмагогія на сацыяльную тэму. Але відавочна, што менавіта гэтыя два фактары былі галоўнымі. І рэч, безумоўна, не ў Жырыноўскім, а ў тых, хто выбраў яго. Ня трэба быць вялікім аналітыкам, каб зразумець, што мы маем справу зь непрадказальным і надта авантурным суседам.

*(Працяг на 2-й стар.)*

## Нашу зброю затрымалі каля Кіпра

**Карэспандэнту СВАБОДЫ пра гэта паведаміў ("пад вялікім сакрэтам") адзін урадавы чыноўнік. Потым пайшлі чуткі, нібыта гэтая партыя беларускай зброі накіроўвалася ў Харватыю. Мы пачалі шукаць "канцы". І вось што ўдалося высьветліць.**

7 кастрычніка ў Міністэрства замежных спраў Беларусі зьвярнуліся два супрацоўнікі пасольства ЗША, якія заявілі, што «Злучаныя Штаты Амэрыкі атрымалі некалькі паведамленьняў аб затрыманьні на Кіпры партыі зброі, якая не была заяўлена ў грузавым маніфэсьце».

Па зьвестках амэрыканскага боку, «гэтая зброя (10 тыс. аўтаматаў АК-47) і вайсковы рыштунак былі набытыя амэрыканскаю фірмаю «Кроўфард Інтэрнэшынал Армс Inc.» на Беларусі (у менскай фірмы «Белзьнешпрамсэрвіс») для дастаўкі ў Емэн. Спачатку зброю перапраўлялі ў Клайпэду (Летува), дзе яна была пагружаная на борт судна».

Прадстаўнікі пасольства ЗША падкрэслілі: «Пакуль мы ня ўпэўненыя ў тым, што гэтая зьдзелка парушае якія-небудзь законы, мы хацелі б пераканацца, што амэрыканская фірма не парушае законаў ЗША». З гэтай прычыны пасольства папрасіла ў беларускага боку любую магчымую інфармацыю, якая б дапамагла «праясьніць гэтую праблему».

Нам невядома, якую інфармацыю даў пасольству наш урад і ці задаволіла яна амэрыканцаў. Мы паспрабавалі самі атрымаць інфармацыю ў камісіі па экспарце зброі (ёсьць такая ў Саўміне, раней яе ўзначальваў Г.Данілаў, а з 18 кастрычніка — віцэ-прэм'ер С.Брыль). Адказны сакратар гэтай камісіі Ул.Харашылаў сказаў, што на просьбу пасольства ЗША яны ўжо далі адказ. Беларуская фірма, па ягоных словах, нічога не парушыла: «тут усё законна, чыста і гладка».

СВАБОДА, магчыма, яшчэ вернецца да гэтай справы.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## Валюта надрукаваная. Клішэ і штампы зьнішчаны

**Інфармаваныя людзі з Нацыянальнага банку неафіцыйна паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ, што «нядаўна зь Мюнхэна дастаўлена апошняя партыя беларускіх манэтаў». З гэтай прычыны ў Мюнхэне пабывала «упаўнаважаная беларуская дэлегацыя, у прысутнасьці якой былі зьнішчаныя ўсе клішэ і штампы нашых будучых грошай».**

Нагадаем, што дзесяць месяцаў таму менавіта нашая газэта першай паведаміла пра сам факт і некаторыя падрабязнасьці падпісаньня спэцыяльнай беларускай дэлегацыяй кантракту з мюнхэнскай фірмай на выраб беларускай нацыянальнай валюты (банкнотаў з назваю «рубель» і манэтаў «грош»). Цяпер рэдакцыя мае эскіз адной з купюраў, але мы не сьпяшаемся яго публікаваць, спадзяючыся раздабыць паўнавартасную банкноту. Вядома, што ўся валюта адразу развозілася па сховішчах абласных філіяў Нацбанку.

Выраб нацыянальнай валюты абышоўся адносна нядорага, па нашых зьвестках, каля 10 мільёнаў даляраў (без уліку дастаўкі). Дасьведчаныя людзі, якія трымалі купюры ў руках, кажуць, што ступень абароненасьці іх ня надта высокая.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Генэралы маўчаць ня будуць

### Але палкоўнікі таксама ня дрэмлюць

**"Спадзяемся, што дэпутаты Вярхоўнага Савета прымуць адпаведнае рашэньне па ўзьнятых пытаньнях" — гэтымі словамі скончыўся вядомы ліст двух генэралаў — шэфа КДБ Эдуарда Шыркоўскага і міністра МУС Уладзімера Ягорава. Нагадаем: яны зьвярнулі ўвагу на "нэгатыўныя працэсы ва Узброеных Сілах, Пагранічных войсках, а таксама на шкодную, зь іхняга пункту гледжаньня, дзейнасьць "правай рукі" Кебіча — скандальна вядомага начальніка саўмінаўскага Дзяржсакратарыята па барацьбе са злачыннасьцю і нацыянальнай бясьпецы Генадзя Данілава. Але прымаць "адпаведнае рашэньне" дэпутаты не сьпяшаюцца.**

### Генэралы гатовы сказаць "свае актывы"

Прасаўмінаўскае дэпутацкае лобі (а таксама іншыя зацікаўленыя) хацелі б спусьціць гэтую справу "на тармазох". Другія ж, хоць і падтрымліваюць генэралаў у кулуарах, публічна выступіць не адважваюцца, пабойваюцца палкоўнікаў (Данілава, Кебіча)... І толькі прыкладна пятая частка ВС (тыя, хто "не замазаны", як выказаўся адзін дэпутат) гатовая больш-менш актыўна падтрымаць генэралаў. Аднак і яны пакуль не выяўляюць актыўнасьці, чакаюць, відаць, зручнейшага моманту.

А ўпартых генэралаў, тым часам, спрабуюць "паставіць на месца". Першая такая спроба была зробленая літаральна на другі дзень (24 лістапада) пасьля абнародаваньня іхняга ліста. Аўтараў выклікалі на "камісію Грыба" (Камісія ВС па нацыянальнай бясьпецы, абароне і барацьбе са злачыннасьцю) і спрабавалі ўчыніць разборку ў лепшых ЦКоўскіх традыцыях. Генэралаў абвінавачвалі нават у тым, што яны "незаконна" распаўсюдзілі свой ліст сярод дэпутатаў (?!), што яны дазволілі сабе крытыкаваць дзейнасьць Камісіі ВС і г.д.

Дэпутат Аляксандар Шут перадаў нам дыктафонны запіс гэтай "разборкі" на камісіі. Грыб і К°. выглядалі досыць разгублена, як непадрыхтаваныя школьнікі, у адрозьненьне ад генэралаў, якія трымаліся даволі ўпэўнена. Працытуем некаторыя іхнія выказваньні, яны вартыя ўвагі.

**Ул.ЯГОРАЎ:** "Гэты ліст усё адно зьявіўся б — рана ці позна. Але пасьля таго, што адбылося 4—5 лістапада і потым, калі тут, на сэсіі, крытыкавалася прысутнасьць такіх сілаў міліцыі, і пасьля таго, як вы даведаліся, як гэта ўсё фармавалася, і ведаючы, з кім я працую, — мы параіліся з Эдуардам Іванавічам і прыйшлі да высновы, што нам трэба на гэты конт выказацца <...>.

Я асабіста як міністр ужо два гады (а паўтара — гэта дакладна) не магу працаваць спакойна, таму што мне пастаянна перашкаджаюць людзі на чале з Данілавым. Так, гэта неканстытуцыйная структура. Але ягоныя прапановы прымаюцца, ягоныя прапановы выслухоўваюцца, заносяцца ў нарматыўныя дакумэнты і набываюць форму пастановаў. І ў той жа час прапановы міністра не прымаюцца <...>.

У нашай невялікай дзяржаве вельмі многа структураў у пагонах, і ўсе вельмі вялікія начальнікі, і ўсе шчокі разьдзімаюць, і ўсе зь бюджэту дзяруць, ня ўносячы туды нічога <...>.

Я лічу, што Дзяржсакратарыят Данілава — гэта наўмысна створаная перашкода для дзейнасьці МУС".

**Э.ШЫРКОЎСКІ:** "Камісія Грыба, Дзяржсакратарыят Данілава дагэтуль не прынялі сапраўдных мераў па барацьбе са злачыннасьцю. Калі трэба, я буду гэта даказваць <...>.

Пісаць гэты ліст мы хацелі 10—11 лістапада, але напісалі 20-га. Я не шкадую, што пісаў і падпісваў ліст. Я гатовы несьці адказнасьць, і я выкажу свае актывы <...>.

Напярэдадні сэсіі мы мелі поўнае ўяўленьне пра сытуацыю ў грамадзтве. І вось 5 лістапада, калі мы знаходзіліся на нарадзе ў кіраўніцтва Саўміну, мы зь Ягоравым даажылі абстаноўку, што ўсё нармальна. Але аказваецца, у Старшыні Саўміну іншыя зьвесткі і матар'ялы. І калі я пачуў на гэтай нарадзе пра ўзброеныя атрады, якія зьбіраюцца штурмаваць Дом ураду, я спытаў: адкуль такія зьвесткі, дайце іх нам, я, як Старшыня КДБ, ня ведаю пра гэта, у нас іншая інфармацыя... Я ўжо даўно ведаў, што такімі "зьвесткамі" займаецца і "зьбірае" іх Дзяржсакратарыят Данілава. Гэта не жартоўная справа. Вы зразумееце, калі ідуць бронетранспарцёры, ідуць войскі сюды і ўсё астатняе... Гэта не жартоўная справа. Я ня спаў усю тую ноч, я таксама прымаў захады, спрабаваў супрацьстаяць «гэтаму»...».

*(Працяг на 4-й стар.)*

## Гадуцішкі: «дасягнутая дамоўленасьць»

### Няўжо Кебіч зьбіраецца жыць яшчэ 99 гадоў?

**«Падчас рабочага візыту В.Кебіча ў Летуву ніякіх пагадненьняў па памежных пытаньнях не падпісвалася», — так адказаў наш Саўмін на запыт дэпутата В.Голубева «аднosна паведамленьняў аб перадачы Летуве беларускай станцыі Гадуцішкі».**

Тым часам летувіская прэса па-ранейшаму сьцьвярджае: «Дасягнутая дамоўленасьць, што чыгуначная станцыя Адуцішкіс (з 5,6 га зямлі вакол яе) будзе належаць Летуве, а друскінінкайскі санаторый «Балтарусія» здаецца ў арэнду Беларусі на 99 гадоў» (*Lietuvos Rytas*).

Хутчэй за ўсё так яно і ёсьць: «дамоўленасьць дасягнутая», але «ніякіх пагадненьняў не падпісвалася». Відаць, Кебіч у сваёй традыцыйнай манэры «даў слова», не разумеючы пры гэтым, што любыя тэрытарыяльныя «абяцанкі» на міждзяржаўным узроўні рэч занадта сур'ёзная. Гэта ж не перамовы зь беларускімі прафсаюзьнікамі ці калгаснымі старшынямі і нават ня сэсія ВС, дзе кожнае новае абяцаньне прэм'ера сканчаецца ўсяго толькі чарговым анэкдотам пра «слова и дело».

Даць якую-небудзь канкрэтную інфармацыю пра «дасягнутую дамоўленасьць» па Гадуцішках урад адмаўляецца. Першы намесьнік старшыні Саўміну М.Мясьніковіч, які падпісаў адказ на дэпутацкі запыт В.Голубева, сьцьвярджае: «Паколькі візыт ня меў афіцыйнага характару, пратаколы сустрэч не вяліся».

*(Працяг на 7-й стар.)*

**Лёсы**

## Да справы Арцымені палкоўнік ня меў дачыненьня

**30 кастрычніка палкоўнік міліцыі Іван Дожын вячэраў у сябе дома і падавіўся косткаю. Ратаваць яго ня здолелі дзьве брыгады «хуткай дапамогі», што прыехалі адна за адною. Праз сем хвілінаў афіцэр памёр.**

Палкоўніку Дожыну было 48 гадоў. Ён працаваў начальнікам пашпартнага аддзелу Гарадзенскага абласнога ўпраўленьня унутраных спраў і ня меў дачыненьня да сьледчай групы, якая займаецца забойствам Д.Арцымені (пра гэта папаўзьлі чуткі пасьля ягонае сьмерці).

**А.С.**

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Такія людзі і — без аховы?!

**Сапраўднаю сэнсацыяй стала рашэньне сэсіі Менскага гарсавету пазбавіць дэпутацкай недатыкальнасьці і пагадзіцца на прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці дэпутата Мар'яна Місуны — скандальна вядомага бізнэсмэна, былога першага сакратара сталічных камуністаў.**

Праўда, раптоўна захварэўшы на радыкуліт, дэпутат Місуна (ён яшчэ знаходзіцца ў клініцы, куды зьлёг літаральна за два дні да сэсіі) застанецца пакуль на волі. Прынамсі, да суда. Ад турэмных кратаў «чырвонага капіталіста» ўратавала ўсяго некалькі галасоў таварышаў і сьледзтва не атрымала дазволу на арышт былога «партбоса», які абвінавачваецца ў «крадзяжы грамадзкай маёмасьці ў асабліва вялікіх памерах».

Адметна, што ў справе Місуны замяшаныя (пакуль яны толькі сьведкі) і некаторыя высокапастаўленыя саўмінаўскія чыноўнікі, а таксама народны дэпутат Беларусі Уладзімер Самошчаў (з 7 лютага 1991 г. па 29 верасьня 1992 г. ён быў прадстаўніком беларускага ўраду ў Расеі, а датуль — загадчык адзьдзела у ЦК КПБ, сябра Яфрэма Сакалова).

Як нам стала вядома, у сьледчых зараз ёсьць шмат пытаньняў да таго ж сп.Самошчава, а таксама да віцэпрэм'ера Мікалая Косьцікава, намесьніка старшыні Дзяржэканомпляну сп.Баршча і былога намесьніка Дзяржкамнафтапрадуктаў сп.Заранка. Напрыклад, невядома чаму спадары Боршч і Заранок у красавіку мінулага года падпісалі пратакол (аб пастаўцы нафты з Расеі ў абмен на дэфіцытныя тавары) з гарадзенскай фірмаю «Эксінвест» (генэральны дырэктар той самы Самошчаў), якая ў той час яшчэ нават не была афіцыйна зарэгістраваная. Ня дзіўна, што «Эксінінвест» так і ня выканаў сваіх абяцаньняў і «нафтавыя рэкі» да нас не паплылі. Дарэчы, зацьвердзіў той па сутнасьці ліпавы пратакол сам намесьнік Кебіча сп.Косьцікаў

Потым да апэрацыі па забесьпячэньні Беларусі нафтапрадуктамі падключылася фірма «Зеніт», якую ўзначальваў Мар'ян Місуна. Але і Мар'ян Іосіфавіч ня вельмі рупіўся дапамагчы Бацькаўшчыне наталіць нафтавую смагу. Атрымаўшы зь дзяржаўнага фонду стабілізацыі гарэлку, ён пачаў хутка рабіць на ёй грошы. У прыватнасьці, намесьнік М.Місуны ў фірме «Зеніт» сп.Дзьмітрыеў заявіў сьледзтву, што па загадзе шэфа 169 тыс. пляшак «белай» было прададзена ў Пскоўскую вобл., натуральна, па камэрцыйных цэнах. Такім чынам, на розьніцы ў коштах, таварыш Місуна і ягоны паплечнік Дзьмітрыеў наварылі 8 млн. 512 тыс. рублёў. Прычым грошы былы партыйны лідар не аформіў на рахунак фірмы, а паклаў сабе ў кішэню.

Нагадаем, што ўсе гэтыя падзеі адбываліся яшчэ ў мінулым годзе. Тады ж была ўзбуджаная крымінальная справа па махінацыях фірмы Місуны, аднак прыцягнуць да адказнасьці яго самога было немагчыма, бо, як дэпутат Менгарсавету, ён быў асобаю недатыкальнай. За Мар'яна Іосіфавіча (і магчыма, яшчэ за кагосьці іншага) расплочваўся «стрэлачнік» — сп.Дзьмітрыеў, які амаль цэлы год праседзеў у сьледчым ізалятары. І толькі цяпер, здаецца, справядлівасьць пачала аднаўляцца. Вылечыўшы радыкуліт, таварышу Місуну ўсё ж давядзецца ў рэшце рэшт зазірнуць у габінэт сьледчага і даць паказаньні.

Дарэчы, нядаўна ў якасьці сьведкі па справе Місуны быў дапытаны грамадзянін Заранок, яшчэ раней — грамадзянін Боршч. Будзем спадзявацца, што дойдзе чарга выканаць свой грамадзянскі абавязак і да Мікалая Косьцікава, і да Уладзімера Самошчава.

І апошняе. Што датычыць зноў жа Мар'яна Місуны, то, апроч буйных гарэлачных махінацыяў, ён не цураўся і дробных крадзяжоў. Так, у кастрычніку мінулага года Мар'ян Іосіфавіч разам са сваім сынам Іванам употайкі ад іншых заснавальнікаў «Зеніту» скралі 63 тысячы 200 рублёў.

Зрэшты, нічога дзіўнага тут няма. Хутчэй заканамерна. Амаль што гэтаму вучыў сам спадар Ульянаў. Памятаеце: «Коммунистом можно стать лишь тогда, когда обогатишь (-ся — аўт.)...» А Мар'ян Іосіфавіч, як вядома, быў верным ленінцам.

**Адам РОЎДА**

# Ад газавай зброі адмовіліся

**На гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні «Волна» у рамках канвэрсіі меліся наладзіць выпуск газавых пісталетаў.**

На прадпрыемстве нават вырабілі досьледную сэрыю, аднак, прааналізаваўшы магчымасьці вытворчасьці ды рынку збыту, ад задумы вырашылі адмовіцца. Рэч у тым, што ў Расеі ўжо пачынаецца масавы выпуск газавай зброі, прычым нашмат больш якаснай, чым можа забясьпечыць гарадзенскае прадпрыемства, спэцыялізаванае на выпуску аўтамагнітоляў.

# Конкурс на казармы

**У цэнтры Ваўкавыска за 65 млн. рублёў прададзеныя казармы на тэрыторыі былога вайсковага гарадка.**

Прэтэндавалі на іх тры ваўкавыскія фірмы. Паводле ўмоваў конкурсу будучы гаспадар павінен стварыць на тэрыторыі гарадка экалягічна чыстую вытворчасьць, а таксама 20 працоўных мейсцаў на ёй. Пры гэтым статутны капітал прэтэндэнтаў на 75% мусіў быць недзяржаўным.

Перамагла фірма «Белфэкс», якая на вайсковай тэрыторыі зоймецца зборкаю мэблі, продажам аўтамабіляў, пабудуе гарадзкі бізнэсцэнтар.

# Сын вучыўся ў бацькі, а бацька — у «школе» Машэрава

**Не пашанцавала, як вядома, і сыну Мар'яна Місуны — Івану, які нядаўна быў арыштаваны менскаю міліцыяй за рэкет.**

Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ з дасьведчаных крыніцаў, Місуна-малодшы разам з групаю «адзінадумцаў» вымагаў у нейкага менскага бізнэсмэна 70 тыс. амэрыканскіх даляраў. Апроч таго, Іван Місуна падазраецца ў крадзяжы аўтамабіля.

За дзень да таго, як зьлегчы ў клініку, Мар'ян Місуна па ўласнай ініцыятыве даў інтэрвію газэце «Вечерний Минск», у якім арышт сына ён пракамэнтаваў так: «Считаю, что он заслужил это. Его правильно арестовали, но к этому приложили руку...». Пра сваю ж справу Мар'ян Іосіфавіч адназначна заявіў, што «это политическое гонение на меня, как на бывшего первого секретаря горкома КПБ». У інтэрвію таварыш Місуна згадвае таксама пра нейкую «школу» Пятра Машэрава. Можа, пракурору варта было б зацікавіцца ўсімі вучнямі гэтай «школы»?

**Адам РОЎДА**

# Зьнікла вада са студняў

**Калі ў мястэчку Рось Ваўкавыскага раёна пачалі капаць катлаваны ды будаваць за нямецкія грошы жылы гарадок для вайскоўцаў, у суседняй вёсцы Студзянец павысахлі калодзежы, хоць праектанты і запэўнівалі, што вада нідзе ня дзенецца.**

Цяпер у вёску двойчы на тыдзень завозяць пітную ваду бочкамі. А мясцовае начальства супакойвае незадаволеных: маўляў, час ад часу вада ў студнях усё ж зьяўляецца.

**С.М.**

# На Зэльвенскім вадасховішчы ня будуць сядаць марскія самалёты

## Яно забясьпечыць Гарадзенскую вобласьць электрычнасьцю

Націскаеш уключальнік, а лямпачка пстрык! — і ляснула. За адзін толькі дзень у мяне некалькі разоў так здарылася. Гавораць, што напружаньне ў электрасетцы вагаецца дый і самі лямпачкі ненадзейныя. Палякі рэклямуюць зусім новыя, якія і лепей сьвецяць, і меней спажываюць электрычнасьці, а ў нас звычайных не хапае.

Гарадзенская вобл. у энэргасыстэме апошняя, крайняя. Раней праблемаў было менш — пад бокам Ігналінская АЭС у Летуве, але мы ўжо вінаватыя станцыі 10 млн. даляраў, вось раз-пораз і адключаюць. Цяпер электрычнасьць паступае са Смаленскай атамнай. Паступае праз Віцебск і Берасьце. Натуральна, што там стараюцца сябе не пакрыўдзіць. Таму нам яшчэ з пачатку восені недадавалі то 30 МВт, то 60, а гэта ўсё адно што абясточыць чатыры раёны вобласьці. Вось тады ў Гроднаэнэрга і вырашаюць ліхаманкава зьменшыць на 10 мэгаватаў падачу электрычнасьці на Ашмянскі, Лідзкі ці Ваўкавыскі раёны. Зьменшыць памяншалі, але папярэдзіць пасьпявалі не заўжды. Калі ў верасьні на дысьпетчарскай у Менску зьмяншалі падачу электрычнасьці нашай вобласьці, дык на некаторых птушкафабрыках, малочных фэрмах, што былі абясточаныя, мелі страты, бо не было каму пакарміць курэй, а кароў даводзілася даіць рукамі.

Сёньня аб'яднаньнем Гроднаэнэрга паводле ўрадавай пастановы распрацаваныя захады па энэргаашчаджэньні. Ад электрасеткі адключаныя гаражныя і дачныя каапэратывы, гандлёвыя шапікі. Адзін з уладальнікаў такога шапіка скардзіўся мне, што ён заўсёды спраўна плоціць за электрычнасьць, а ў той жа час некаторыя прадпрыемствы вінаватыя мільярды рублёў. Атрымліваецца, што тых, хто плоціць, адключаюць, а дармаедаў працягваюць карміць. Аднак ня ўсё так проста. За электрычнасьць і цяпло аб'яднаньне «Азот», да прыкладу, завінавацілася 28 млрд. рублёў, але ж яно дагэтуль не атрымала грошай за сваю прадукцыю.

Дзеля эканоміі забаронена электраацяпленьне дамоў, кватэраў, саўнаў, майстэрняў ды розных сельгаспамяшканьняў на вёсцы, боксаў у вайсковых частках, вагончыкаў будаўнічых арганізацыяў. Але як гэта пракантраляваць? Асабліва ў дамах і кватэрах, калі мы плоцім толькі трэцюю частку ад сабекошту электрычнасьці! Нашая эканоміка і савецкі лад жыцьця адмаўлялі электраашчаджэньне. Хай сабе нехта плявузгае, што ва ўсім вінаватая незалежнасьць, але я выдатна памятаю, як у 1985—1986 г., калі з СССР усё было о'кей, а Ігналінская ды Чарнобыльская не шкадавалі Беларусі электрычнасьці, у нашай прынамсі вобласьці панаваў энэргакрызыс. Становішча было настолькі складаным, што абкам партыі скасаваў у раёнах выходныя ў суботу і нядзелю. У Астраўцы, напрыклад, «нядзелю» зрабілі ў панядзелак, у Ваўкавыску — у аўторак і г.д. Яўна не спрыяла эканоміі электрычнасьці і тое, што Беларусь жыла па маскоўскім часе і мы пачыналі працу на гадзіну раней чым трэба — упоцемку.

Час у нас ужо даўно свой — менскі, і цяпер трэба падбаць пра ўласныя крыніцы электраэнэргіі. Калісьці ў Зэльве, на рачулцы Зальвянцы стварылі вялікае вадасховішча. Ахвочыя да сэнсацыяў людзі паміж сабою гаварылі, што яно нібыта прызначанае для пасадкі самалётаў марской авіяцыі(?), якія базаваліся ў Быхаве, на Магілёўшчыне. Адна гарадзенская газэтка нядаўна надрукавала «качку» пра пабудову каля вадасховішча АЭС. Аднак у Зэльве на самой справе пачаліся падрыхтоўчыя работы да пабудовы ГРЭС. Гэтая станцыя магутнасьцю 1,8 млн. кВт цалкам забясьпечыць вобласьць электрычнасьцю. Першую чаргу Зэльвенскай ГРЭС мяркуецца запусьціць да канца 90-х гадоў.

Вобласьць магла б ня мець сёньняшніх праблемаў, каб у пачатку 60-х гг. ажыцьцявілі пабудову Гарадзенскай гідраэлектрастанцыі. Тады існавала задума стварэньня некалькіх электрастанцыяў на Нёмане, але пабудаваная была толькі адна — Ковенская, у Летуве. Гэтыя пляны перакрэсьліла гігантаманія сібірскіх ГЭС, а пасьля і АЭС у эўрапейскай частцы СССР. У выніку ўсяго Беларусь засталася амаль без уласнай электрычнасьці.

Сёньня на Гарадзеншчыне адноўленая першая калгасная ГРЭС, якія былі паўсюль пазачыняныя ў 60-я гг. Аднаўляць, аднак, цяжэй, дый ня з нашым спрытам. Летувісы і тут выявіліся больш практычнымі: праз нядоўгі час яны аднавілі большасьць сваіх малых калгасных электрастанцыяў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Былыя вяртаюцца

**Камуністы Лагойскага раёна абралі сваім лідарам 63-гадовага старшыню калгаса Фёдара Рускевіча.**

У «дагарбачоўскі пэрыяд» ён быў першым сакратаром Лагойскага райкама КПБ, але ў 1985 г. мусіў адправіцца ў калгас умацоўваць сельскую гаспадарку. Цяпер вось вярнуўся.

**М.Г.**

# Цырульнікі ўсёй краіны, яднайцеся!

**Хутка і ў цырульнікаў будзе свая партыя. Нядаўна яны сабраліся ў Віцебску, выбралі аргкамітэт Саюза беларускіх цырульнікаў, які апэратыўна падрыхтаваў неабходныя дакумэнты і падаў іх на рэгістрацыю ў Менюст.**

Паводле словаў аднаго з арганізатараў Саюза — галоўнага інжынера менскага аб'яднаньня «Усход» Уладзімера Машары, цырульнікам патрэбная свая грамадзкая арганізацыя, каб «захаваць і ўдасканаліць школу беларускага цырульнага майстэрства». Аказваецца, «у нас ёсьць тут чым ганарыцца». Напрыклад, майстэрствам віцебскага цырульніка Аляксандра Копацева, які займае шостае мейсца ў сьвеце сярод мужчынскіх майстроў. Альбо менскімі спэцыялістамі дэкаратыўнай касмэтыкі (Ларыса Лабуціна, Сьвятлана Клубова, Ала Булынка), якія атрымалі сусьветнае прызнаньне на міжнародных конкурсах.

Будзем спадзявацца, што пасьля аб'яднаньня ў Саюз нечаму навучацца і майстры звычайных цырульняў.

**П.Б.**

# СНД голад не пагражае

**Неверагодным багацьцем разнастайных страваў і напояў вызначаўся прыём, які быў наладжаны 9 сьнежня ў менскай штаб-кватэры СНД у гонар другой гадавіны Віскулёў.**

Найперш менавіта гэтую акалічнасьць азначылі многія ўдзельнікі гэтай імпрэзы, зь якімі гутарыў карэспандэнт СВАБОДЫ.

**М.Г.**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Генэралы маўчаць ня будуць

(Пачатак на 1-й стар.)

## Ці працуе Шыркоўскі на ЦРУ?

Апаненты Шыркоўскага і Ягорава сьцьвярджаюць, што за лістом двух генэралаў стаіць "нехта трэці". Намякаюць то на Ст.Шушкевіча, то на БНФ і нават на "спэцслужбы суседніх дзяржаваў" (гэтую глыбокую думку выказаў камандуючы Пагранічнымі войскамі генэрал Бачароў, нардэп ВС). Шэфу КДБ даводзіцца тлумачыць, што ён не агент ЦРУ, што ён працуе не на Шушкевіча ("Я сустракаўся зь ім у гэтым годзе толькі тры разы"), не на Народны Фронт ("Я ведаю, калі БНФ прыйдзе да ўлады, дык КДБ заўтра ж будзе расфармаваны"), а кіруецца выключна "інтарэсамі дзяржавы".

Зразумела, што дэпутацкая Апазыцыя БНФ у гэтым канфлікце адназначна падтрымлівае двух міністраў. Дэпутат Сяргей Навумчык даў наступны камэнтар: "Шыркоўскага і Ягорава абвінавачваюць у "палітыканстве" і патрабуюць ад іх "не высоўвацца за межы сваёй прафэсыйнай сфэры". Але міністр, на маю думку, найперш павінен быць палітыкам, а ўжо потым прафэсіяналам (апошняе, безумоўна, неабходна). Гэта значыць — ён павінен бачыць палітычную пэрспэктыву і кіравацца дзяржаўнымі інтарэсамі. Сваё слова тут павінен быў бы сказаць Вярхоўны Савет, але ён у большасьці кантралюецца Кебічам, таму мала спадзяваньняў, што ўзьнятыя Шыркоўскім і Ягоравым пытаньні тут захочуць разглядаць і вырашаць. Хутчэй за ўсё прагаласуюць "прыняць інфармацыю да ведама".

Такое разгортваньне падзеяў наўрад ці задаволіць Шыркоўскага і Ягорава. Магчыма, яны спадзяюцца на Шушкевіча. Аднак і тут сьпікер дэманструе нерашучасьць, і, відаць, зь ягонага боку ня будзе сур'ёзных захадаў. Хутчэй за ўсё ён чакае, калі Кебіч прапануе на зацьверджаньне Вярхоўнаму Савету новую структуру Савета Міністраў.

Па нашых зьвестках, Дзяржсакратарыята ў новай структуры ня будзе. Гэтым самым Кебіч паспрабуе "закрыць пытаньне" па Данілаву, зрабіць яго, напрыклад, сваім дарадцам, і той будзе мець практычна тыя ж самыя функцыі. Спадзявацца, што Кебіч адправіць Данілава з Дома ўраду ці хаця б суцішыць ягоны спрыт, — не даводзіцца. Надта моцна яны зьвязаныя, амаль як тыя сіямскія блізьняты: разанеш "па жывым" і абодвум — капцы.



Эдуард Шыркоўскі

## КДБ будуць "рэарганізоўваць"

Ясна, што генэралы, напісаўшы свой ліст, пайшлі, фактычна, ва-банк. І ня ў іхніх інтарэсах даваць цяпер задні ход (гэта іх усё адно не ўратуе). Дасьведчаныя людзі сьцьвярджаюць, што абодва міністры "будуць стаяць цьвёрда". Кажуць, "у лісьце яны толькі паставілі пытаньне, асноўная інфармацыя, якая будзе сапраўднай бомбаю, застаецца ў партфэлі". Захочуць генэралам зьнесьці галаву — "бомба ўзарвецца". Таму Саўмін і ягонае дэпутацкае лобі ня будуць секчы з пляча. Там высьпеў іншы плян.

Пасьля таго, як ва ўрадзе зразумелі, што наўрад ці ўдасца падпарадкаваць КДБ Саўміну (пытаньне галасавалася ў ВС пяць разоў і не набірала неабходнай колькасьці галасоў), ад гэтай ідэі вырашылі часова адмовіцца. Днямі на камісіі Грыба была прынятая прапанова дэпутата В.Паўлава (намесьніка Г.Данілава) заняцца "рэарганізацыяй" КДБ. Таму Закон аб КДБ, які ніяк не ўдаецца канчаткова прыняць толькі з-за аднаго артыкула (каму будзе падпарадкоўвацца КДБ),



Уладзімер Ягораў

камісія прапануе зьняць з разгляду, а замест гэтага неадкладна ўзяцца за "рэарганізацыю" ведамства Шыркоўскага.

Кебіч і Ко. вырашылі, відаць, што з тылу яны хутчэй возьмуць КДБ. У іх мала часу. Ім трэба пасьпець да новых выбараў узяць пад сваё крыло дзяржбясьпеку зь яе інфармацыяй і магчымасьцямі. Тады ў іх ёсьць шанц. Інакш — магіла.

Задумаўшы "рэарганізацыю" КДБ, яны верагодна разьлічваюць, што гэтую ідэю падтрымае Апазыцыя. Марная надзея. Дэмакраты выдатна разумеюць, што гэтае ведамства можна "рэфармаваць" толькі адным шляхам — рашэньнем дэмакратычна абранага парляманту зьліквідаваць яго і на чыстым месцы ўтварыць абсалютна новую спэцслужбу дзяржавы.

Зрэшты, каб распачаць задуманую "рэарганізацыю", Саўміну хопіць і "сваіх" галасоў у Вярхоўным Савеце. Аднак ці хопіць часу рэалізаваць ідэю?

## Пэрспэктывы

Той факт, што Эдуарду Шыркоўскаму 63 гады, будзе скарыстаны ў першы ж больш зручны момант, каб адправіць яго "на заслужаны адпачынак".

Уладзімер Ягораў на дзесяць гадоў маладзейшы за свайго калегу, і, як лічаць некаторыя назіральнікі, цяперашні міністр МУС пры любой раскладцы мае добрую палітычную пэрспэктыву. Выказваецца думка, што гэты канфлікт, чым бы ён для Ягорава ня скончыўся, толькі ўмацуе ягоныя пазыцыі. І зусім нечакана было пачуць меркаваньне аднаго даволі прыстойнага бізнэсмэна, які лічыць, што "толькі такія людзі, як Ягораў, могуць навесьці ў гэтай краіне парадак..."

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



Ну, тактыкі! Ну, стратэгі!.. (Нардэпы-палкоўнікі В.Паўлаў і Г.Казлоў)

## СЁНЬНЯ

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Фатальная памылка БНФ

Ёсьць яшчэ і такі ўзровень разуменьня падзеяў: людзі падумаюць, у народзе скажуць...

Пасьля таго, як Вярхоўны Савет «заваліў» рэфэрэндум, Апазыцыя БНФ аб'явіла гэты Вярхоўны Савет нелегітымным. Але працаваць у ім засталася. Мала хто зразумеў — чаму? Гэта быў пройгрыш самай сур'ёзнай на Беларусі незалежніцкай палітычнай сілы. Апазыцыя засталася ў адзіным нелегітымным кошыку з Камаём, Лукашэнкам ды іншымі «дэмакратамі». У народзе сказалі: «гаварыльня», «дзермакраты». З гэтага моманту БНФ перастаў хоць неяк фармаваць палітыку на Беларусі і вызначаць падзеі. На новых выбарах у народзе скажуць: гэтыя ўжо насядзеліся, гэтыя давялі...

Калі б тады, пасьля забароны рэфэрэндуму, Апазыцыя паклала мандаты — усе 35 ці хоць бы толькі адзін, пазьнякоўскі, — у яе былі б шанцы стварыць рэальны народны фронт, г.зн. прыцягнуць да сябе людзей, прыцягнуць сымпатыі. У народзе сказалі б: малайцы хлопцы, гэтыя гаварыльню не разводзяць, гэтыя пайшлі працаваць. Тады было б ясна — дзе дэмакраты. Тады на новых выбарах было б зразумела, за каго аддаваць галасы. БНФ захаваў бы ініцыятыву, а Зянон Пазьняк — свой імідж бескампраміснага змагара.

На Беларусі шануюць бескампрамісных, тых, што «за народ». Парадокс у тым, што пры ўсеагульнай і абсалютнай незадаволенасьці сёньняшняй уладай палітычнае падпольле на Беларусі застаецца вакантным мейсцам.

Дзеля чаго яны засталіся? Каб набрацца сілаў? Каб утрымаць гэты сувэрэнітэт? Але абвешчанае назаўтра пахаваньне «зайчыка» паказвае, што не ўтрымаюць. Здача Расеі фінансава-крэдытовай сыстэмы — гэта здача ўсёй эканомікі і самой Беларусі. І якая нам розьніца, хто будзе ёю валодаць — ЦК КПСС ці які-небудзь МММ ("Мы здолелі зарабіць грошы на Расеі, здолеем зарабіць і на вас!")?

Пасьля адмовы ад рэфэрэндуму Апазыцыя БНФ фактычна нічым не дапамагла сваёй краіне ў ВС. Яна толькі нашкодзіла сабе. У народзе сказалі: гэтыя дэпутаты ўсе аднолькавыя, ім абы кватэры і бясплатны праезд!

Калі і цяпер Апазыцыя застанецца ў гэтым нелегітымным кошыку, яна ўжо не прайграе, яна пахавае сябе.

Цяперашні Вярхоўны Савет РБ — гэта нават не гарбачоўскі ВС СССР і тым больш не парлямант Летувы, дзе можна нечага дасягнуць фракцыйнай барацьбой і лабізмам, выкарыстаньнем «палітычных сродкаў». Гэта «парлямант» яшчэ брэжнеўскага тыпу, і яго асноўная задача — ня лезьці ў справы краіны, якою кіруе ЦК ці — як сёньня — Саўмін. У нашым часе ВС стаў сьвістком для выпусканьня пары, захаваўшы сваю галоўную функцыю — аніякіх функцый! Нелегітымнасьць ягоная — гэта не прысуд БНФ, а прыроджаная сутнасьць.

Сьніў я фантасмагарычны сон: даведзены да апошняе мяжы народ штурмуе будынак Вярхоўнага Савету. Паўсюль вогнішчы і лёзунгі, тысячы людзей бягуць у наступ з крыкам: «Далоў!!!» А з расчыненага вакна колішняга ЦК вызірае лідэр Апазыцыі Зянон Пазьняк. Ён махае рукамі: сюды! сюды! паддайце агню!..

Лепей позна, чым гэтак.

# БЗВ нарабіла шуму ў Летуве



## «Заваёўнікі»

Пад такой назвай папулярная летувіская газэта «Рэспубліка» зьмясьціла на першай старонцы інфармацыю наступнага зьместу: «Саюз беларускіх ваенных запатрабаваў перадаць сталіцу Літвы — Вільню — Беларусі».

Усе астатнія цэнтральныя летувіскія газэты надрукавалі паведамленьне агенцтва «Эльта», у якім Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў памылкова называецца Саюзам афіцэраў Беларусі. Зьмест камэнтараў летувіскай прэсы зводзіцца да недаўменьня: як гэта краіна, якая добраахвотна пазбаўляецца свайго сувэрэнітэту на карысьць Расеі, можа адначасова заяўляць тэрытарыяльныя прэтэнзіі?

## Пра што размова?

Маецца на ўвазе «Зварот да грамадзкасьці па праблеме Вільні і Віленскага краю», які быў прыняты на ІІ-м зьезьдзе Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў 20 лістапада ў Менску. У Звароце зьвяртаецца ўвага грамадзянаў Беларусі і міжнароднай супольнасьці на «гістарычную недарэчнасьць, у выніку якой старажытны 10-мільённы эўрапейскі народ стаўся пазбаўленым сваёй гістарычнай сталіцы». Спасылаючыся на міжнароднае права, зьезд БЗВ лічыць, што пасьля скасаваньня пакту Молатава—Рыбэнтропа і некаторых іншых дамоваў Летувіская Рэспубліка пазбаўляецца юрыдычнага права на Вільню і Віленскі край, атрыманых ёю па гэтых дамовах.

Старшыня БЗВ Мікалай Статкевіч па просьбе карэспандэнта БелаПАН пракамэнтаваў гэты дакумэнт:

— Мы спазьніліся з пытаньнем Вільні, — заявіў ён. — Я лічу, яго варта было ўзьняць тады ж, калі гэта зрабіў Вярхоўны Савет БССР у 1990 годзе па ініцыятыве з Масквы. Зараз час працуе не на нас. Сапраўды, Беларусь цяпер у цяжкім эканамічным становішчы, але гэты пэрыяд у рэшце рэшт міне, а вось праблема Вільні і Віленскага краю застанецца. Мы ведаем, што наш зварот выкліча шмат абвінавачваньняў. Але ня можам зьмірыцца з тым, што нашая Вільня для нас страчаная і мы нават ня маем змогі наведаць гэты старадаўні і слаўны беларускі горад без абразьлівых мытных і консульскіх працэдураў.

Аднак М.Статкевіч падкрэсьлівае, што пра тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Летувы гаворка ня йдзе. Шлях да вырашэньня праблемы, на ягоную думку, у наданьні Вільні і Віленскаму краю асаблівага статусу, у арганізацыі свабоднага доступу беларусам у гэты рэгіён, у дапамозе з боку Рэспублікі Беларусь у справе адраджэньня там беларускага нацыянальнага жыцьця, а таксама ў вяртаньні каштоўнасьцяў з музэя Луцкевіча, якія цяпер складаюць аснову Нацыянальнага музэя Жамойціі (былая назва цяперашняй Летувы).

## Афіцыйная рэакцыя

26 лістапада па ініцыятыве прадстаўніцтва Летувы ў Менску адбылася сустрэча прадстаўніка Летувіскай Рэспублікі Альфонсаса Аўгуліса са Старшынёю БЗВ Мікалаем Статкевічам.

Прадстаўнік Летувы выказаў заклапочанасьць кіраўніцтва сваёй дзяржавы ў сувязі са Зваротам БЗВ. М.Статкевіч, у сваю чаргу, зьвярнуў увагу на той факт, што ў Звароце ні слова няма пра тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Летувы.

*БелаПАН*





© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# САКРЭТНЫ ВІЗЫТ

**Гэтая паездка рыхтавалася пад покрывам таямніцы. Пра яе ведала толькі невялікае кола асобаў, набліжаных да ўлады. Сакрэтнасьць была такая, быццам «за бугор» выпраўлялі групу шпіёнаў.**

Так у Сьветлагорску (Гомельская вобл.) рыхтавалі да паездкі ў нямецкі горад-пабрацім Хэльмштадт групу дзяцей. Пра гэта ведалі толькі тыя, «каму трэба». Сьветлагорскае начальства пастаралася, каб пра паездку не даведаўся горад: раптам, не дай Бог, плян сарвецца. А плян быў па-савецку просты: адправіць у Нямеччыну сваіх дзяцей.

Трэба аддаць належнае арганізатарам паездкі — пастаўленую задачу яны пасьпяхова выканалі, пра замежнае падарожжа дзяцей намэнклятуры гараджане не даведаліся.

Мы таксама пра гэта наўрад ці ведалі б, ды адзін чытач нашай газэты быў у тым нямецкім горадзе акурат пасьля ад'езду дзяцей. Немцы, якія сутыкаліся са сьветлагорскімі «пасланцамі міру», выказалі сумненьне наконт таго, што гэта сапраўды дзеці са «звычайных сем'яў», як іх прадстаўлялі, (у кожнага пры сабе па 100—300 даляраў). Нямецкі бок мае вялікае падазрэньне, што гэта былі пераважна дзеці «красных багацеяў».

Неафіцыйным шляхам мы праверылі інфармацыю і пераканаліся, што нямецкага падаткаплацельшчыка, на чые грошы адпачывалі 38 сьветлагорскіх школьнікаў, у чарговы раз ашукалі. На адпачынак у Нямеччыну зьездзілі дзеці (альбо пляменьнікі) «простых людзей», што кіруюць гарвыканкамам, аб'яднаньнем «Хімвалакно» ды іншымі прадпрыемствамі, падаткавай інспэкцыяй, райбальніцай, прафсаюзамі, гандлем і г.д. Сьпіс быў зацьверджаны нам.старшыні Сьветлагорскага гарвыканкаму В.Зьвягіным і загадчыкам гарадзкога аддзела адукацыі В.Фёдаравым.

Быў запляnaваны таксама «візыт у адказ» групы нямецкіх дзяцей. Але ў Хэльмштэдце такіх ахвотнікаў не знайшлося. Па словах немцаў, на абвестку ў гарадзкой газэце ніхто не адгукнуўся. Бюргеры вырашылі, відаць, зэканоміць грошы сьветлагорскіх падаткаплацельшчыкаў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## «Браты па зброі» не сьпяшаюцца разьвітацца

**Расейскія войскі на тэрыторыі Беларусі будуць знаходзіцца яшчэ на працягу шасьці гадоў.**

Графік вываду расейскіх войскаў наступны: да канца 1993 г. будуць выведзеныя дыслакаваныя на нашай тэрыторыі войскі сувязі, інжынэрныя, сухапутныя і паветрана-дэсантныя войскі, а таксама падразьдзяленьні Галоўнага разьведвальнага ўпраўленьня расейскага войска; да канца 1994 г. — часткі радыёэлектроннай барацьбы; да канца 1995 г. — часткі ваенна-паветраных сілаў і сувязі цэнтральнага падпарадкаваньня; да канца 1996 г. — ракетныя войскі стратэгічнага прызначэньня; да канца 1999г. — астатнія часткі войскаў проціпаветранай абароны і марскога флёту.

*БелаПАН*

# Інфармацыйная дзюрка ў цэнтры Эўропы

Парлямант Рэспублікі Беларусь адвяргае прынцыпы Эўрапейскай Канвэнцыі аб правох чалавека

**На пачатку сьнежня дэпутаты парляманту абмяркоўвалі папраўку да праекта новай Канстытуцыі: «Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права вольна зьбіраць і распаўсюджваць інфармацыю». Гэта — асноўная думка дзесятага артыкула Эўрапейскай Канвэнцыі аб правох чалавека. Канстытуцыі дэмакратычных дзяржаваў ва ўсім сьвеце грунтуюцца на прынцыпах Эўрапейскай Канвэнцыі. А беларускія заканадаўцы большасьцю галасоў адхілілі прапанаваную папраўку. На думку старшыні рабочай групы па распрацоўцы Канстытуцыі Генэральнага пракурора В.Шаладонава, такая папраўка «дае зашмат свабоды».**

Беларускі парлямант, называючы сябе дэмакратычным, не вызнае міжнародных законаў. Тым самым ён супрацьпастаўляе сябе сусьветнай супольнасьці. Прыняты ў першым чытаньні беларускі Закон аб друку ледзь ня ў кожным артыкуле супярэчыць агульнапрынятым нормам. Закон надае дзяржаве права ўмешвацца ў дзейнасьць сродкаў масавай інфармацыі. Дзяржава таксама можа караць журналістаў за злоўжываньне свабодаю слова і пазбаўляць іх магчымасьці займацца прафэсійнай дзейнасьцю.

Паводле ступені свабоды прэсы вызначаецца ступень свабоды грамадзтва, узровень дэмакратыі. Стаўленьне беларускае дзяржавы да прэсы мае ярка выражаны бальшавіцкі характар. У адным са сваіх інтэрвію прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч заявіў, што будзе падтрымліваць толькі тыя сродкі масавай інфармацыі, якія падтрымліваюць урад. Далейшыя дзеяньні кабінета міністраў даюць падставы меркаваць, што тыя сродкі масавай інфармацыі, якія не падтрымліваюць урад, будуць пазачыненыя. Менавіта такі лёс напаткаў тры незалежныя тэлекампаніі, якія спынілі сваю дзейнасьць у навагоднюю ноч 1 студзеня 1993 г. Прэм'ер асабіста ўзяў удзел у лёсе тэлекампаніяў. У новым 1994 г. кампаніі адновяць работу. Аднак іхняя дзейнасьць цяпер абмежаваная кантрактам зь дзяржавай, дзе запісана, што кампаніі не маюць права крытыкаваць урад.

Ва ўмовах няволі беларуская прэса слабее дзень пры дні. Лепшыя журналісты даўно працуюць на заходнія або расейскія сродкі масавай інфармацыі. Але, набываючы такім чынам свабоду слова, яны сутыкаюцца з варожасьцю ўладаў. Іх могуць пазбавіць акрэдытацыі на парляманцкай сэсіі, а то і ўвогуле заарыштаваць. Так, менскі карэспандэнт расейскай газэты *Коммерсантъ daily* змушаны быў эміграваць у Маскву, хаваючыся ад арышту.

Правадыр сусьветнага пралетарыяту Уладзімір Ільіч Ленін адводзіў прэсе ролю інструмэнту камуністычнае партыі ў справе пабудовы сьветлае будучыні ўсяго чалавецтва. Ключавыя пасты ў беларускім урадзе і большасьць крэслаў у парляманце займаюць былыя камуністычныя функцыянэры. Выхаваныя на вучэньні правадыра, яны адкрыта ігнаруюць правы чалавека на свабоду інфармацыі.

Як сказана ў Канстытуцыі, Беларусь ёсьць дэмакратычная рэспубліка. Аднак беларуская дэмакратыя мае ярка выражаную «коммунистическую изнанку». У сусьветнае супольнасьці мала інфармацыі пра чырвона-дэмакратычны гібрыд з назовам Рэспубліка Беларусь. Тутэйшыя ўлады ведаюць, што робяць: адсутнасьць інфармацыі разьвязвае ім рукі. У самым цэнтры Эўропы знаходзіцца інфармацыйная дзюрка чырвонага колеру.

**Дзьмітры ФІЛІМОНАЎ**




КАМПАНІЯ — ПБА

**Рамонт і мантаж дахаў сучаснымі**

**ПАЛІМЭРНЫМІ МАТАР'ЯЛАМІ**

**Тэрмін службы даху 25—30 гадоў.**

**Гарантыйнае абслугоўваньне на працягу 3—5 гадоў.**

**Праводзім гермэтызацыю м/п швоў.**

*Аплочваем паслугі па прадстаўленьні новых абсягаў работы*

Масква, вул. Планэтная, 26 (мэтро «Дынама»).
Для карэспандэнцыі: 129010, Масква, а/с 84.
Тэлефон (095) 155-9012, 152-8196.
Тэлефакс: (095) 151-5908


# Багдановічу ў Расеі холадна

**9 сьнежня ў музэі Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі магло быць сьвята — першыя ўгодкі з дня адкрыцьця музэя. Але сьвята не адбылося. Чаму? Вінаваты суровы расейскі клімат. Пры 20-ці градусах марозу батарэі ў будынку трэснулі па швох.**

Экспазыцыя «Белорусский поэт с берегов Волги» месьціцца ў доме, дзе з канца 1912 г. да сярэдзіны 1914 г. жыў клясык беларускай літаратуры. Менавіта тут Максім Багдановіч атрымаў у рукі сваю адзіную прыжыцьцёвую кнігу — непаўторны «Вянок». Дом быў пабудаваны ў 1907—1908 гг. на былой Любімскай вуліцы (цяпер вуліца Чайкоўскага). З мэтаю ягонага захаваньня (будынку пагражаў знос) дом быў перанесены на супрацьлеглы бок вул. Чайкоўскага, дзе знаходзіцца і цяпер.

Стварэньне музэя беларускага паэта ў Расеі патрабавала шматлікіх намаганьняў зь беларускага боку. Па крупінках былі сабраныя матар'ялы, якія асьвятлялі жыцьцё і творчасьць Максіма Багдановіча ў яраслаўскі перыяд (1908—1916). Міністэрства культуры Беларусі фінансавала распрацоўку тэматычнага пляну, выраб музэйнага абсталяваньня і мантаж экспазыцыі, якую рыхтавалі ў 1991-1992 гг. супрацоўнікі менскага музэя з мастаком Генадзем Чыстым. Зь Менску ў Яраслаўль былі завезеныя шматлікія экспанаты — арыгіналы, а таксама копіі, па-майстэрску выкананыя беларускімі муляжыстамі. Зь Беларусі даставілі нават цьвікі. З музэем у Яраслаўлі было зьвязана шмат спадзяваньняў...

Паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і адміністрацыяй Яраслаўскай вобласьці, музэем М.Багдановіча ў Менску і музэем-запаведнікам М.А.Някрасава «Карабіха» была заключаная дамова на сем гадоў. Расейскі бок узяў на сябе абавязкі па захаваньні будынка і экспанатаў.

Аднак беларускі музэй у Расеі не праіснаваў і аднаго года. Можа, сапраўды, вінаватыя маразы? Ці ёсьць іншыя прычыны?

Прычына, вядома, не ў маразох. Падобна на тое, што дырэкцыя запаведніка ў свой час пагадзілася на стварэньне музэя Багдановіча толькі дзеля таго, каб прыбраць да рук і выкарыстаць у сваіх мэтах сам гэты будынак, які разьмяшчаецца ў цэнтры горада. Стварэньне музэя было ўсяго толькі прыкрыцьцём. Нашыя сябры зь Яраслаўля паведамляюць, што музэй Багдановіча быў для мясцовых чыноўнікаў тым нежаданым дзіцем, якое наўмысна купаюць у халоднай вадзе — «авось помрёт»...

Вынікаў не давялося доўга чакаць — патрэбны неадкладны рамонт, паўстала пытаньне дэмантажу экспазыцыі. Лёс музэя — невядомы.

**Паўліна КАЧАТКОВА, загадчык экспазыцыйнага адзьдзела музэя М.Багдановіча ў Менску**





Будынак музэя М.Багдановіча ў Яраслаўлі



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Вацлаў Іваноўскі выпусьціў першы нумар СВАБОДЫ

**У Горадні адбылася навукова-практычная канфэрэнцыя, прысьвечаная жыцьцю і дзейнасьці Вацлава Іваноўскага. Яе арганізавалі супольна Гарадзенская краязнаўчая асацыяцыя і Дзяржаўны музэй гісторыі рэлігіі. Канфэрэнцыя была прымеркаваная да 50-ых угодкаў трагічнай сьмерці Іваноўскага, забітага ў 1943 г. ў Менску, бургамістрам якога ён быў. Гэта першае навуковае мерапрыемства, прысьвечанае чалавеку, на імя якога доўгія дзесяцігодзьдзі савецкімі ўладамі было накладзенае табу.**

Старшыня краязнаўчай асацыяцыі і адначасова намесьнік дырэктара інстытута біяхіміі Акадэміі навук Андрэй Майсяёнак распавёў аб плённай навуковай і выкладчыцкай дзейнасьці Вацлава Іваноўскага ў Варшаўскай палітэхніцы ў міжваенны пэрыяд. Навуковы супрацоўнік музэя рэлігіі Вітаўт Руднік гаварыў пра ролю Іваноўскага ва ўсталяваньні выдавецкай справы. Другі супрацоўнік музэя сп.Хільмановіч распавёў пра родавую сядзібу Іваноўскіх Лябёдку, якая некалі была ў Лідзкім павеце, а сёньня знаходзіцца ў Шчучынскім раёне. Сядзібны дом захаваўся дагэтуль, у ім месьціцца цяпер шпіталь для псыхічна хворых дзяцей. У гэтай сядзібе напрыканцы 1902 г. Вацлавам Іваноўскім разам зь сябрамі быў надрукаваны першы нумар газэты СВАБОДА.

Намесьнік старшыні Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Малевіч, закрануўшы тэму рознага нацыянальнага самавызначэньня трох братоў Іваноўскіх, падкрэсьліў, што гэта не разьяднала іх, а наадварот, яшчэ больш згуртавала. Тым самым сп.Малевіч абгрунтаваў сваю думку пра тое, што ўласную нацыянальную прыналежнасьць чалавек вызначае сам. Як вядома, Юры Іваноўскі спрычыніўся да польскага адраджэнскага руху, Тадэвуш — да пабудовы летувіскай дзяржавы, а Вацлаў удзельнічаў ва ўрадзе БНР, перажыўшы пазьней асабістую душэўную драму з прычыны таго, што беларуская дзяржава ў 1918—1920 г. так і не ўсталявалася.

Прафэсар Гарадзенскага унівэрсытэту Аляксей Пяткевіч адзначыў выключную ролю Вацлава Іваноўскага ў новым беларускім адраджэньні, якая доўга замоўчвалася савецкай гістарычнаю навукай. Розныя нацыянальныя самавызначэньні братоў Іваноўскіх ён абгрунтаваў краёвасьцю іхняга бацькі Леанарда, які лічыў сябе ліцьвінам, як і вялікая частка мясцовай шляхты ды інтэлігенцыі, якая потым залежна ад палітычнай сытуацыі схілілася да беларушчыны альбо летувізавалася. Самым яскравым прыкладам гэтага якраз і зьяўляецца сям'я Іваноўскіх.

Удзельнікі канфэрэнцыі выказалі спадзяваньне, што ў 1995 г. да 150-х угодкаў з дня народзінаў Леанарда Іваноўскага — вядомага вучонага і прамыслоўца — на сядзібным доме ў Лябёдцы будзе ўсталяваная мэмарыяльная шыльда.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Акоўцы пішуць Кебічу

**Ад імя Сусьветнага саюза жаўнераў Арміі Краёвай старшыня яго галоўнай управы Аляксандар Тышкевіч зьвярнуўся зь лістом да старшыні беларускага ўраду сп.Кебіча. Ён просіць надаць вэтэранскія правы жаўнерам АК, якія зьяўляюцца грамадзянамі Беларусі.**

Сп.Тышкевіч піша, што «Армія Краёва ніколі не ваявала супраць беларускага народа, а ў яе шэрагах плячо ў плячо змагаліся палякі і беларусы».

Пры існаваньні савецкай імпэрыі акоўцы не маглі мець вэтэранскіх правоў. Беларусь ужо незалежная, але старыя ідэалягічныя стэрэатыпы аказаліся вельмі жывучымі, і апошнім часам зноў назіраюцца атакі на АК, піша сп.Тышкевіч. Хлусьліва сьцьвярджаецца, працягвае ён, што АК супрацоўнічала з фашыстамі ды нішчыла беларусаў. Гэта робіцца гучна, крыкліва, дэмагагічна. Тым самым параненйшаму адбываецца дыскрымінацыя жаўнераў АК, што вельмі непакоіць акоўцаў у Польшчы.

Гэтую справу неабходна хутчэй вырашыць, бо яна датычыць ня толькі стасункаў паміж людзьмі, але і паміж дзяржавамі — Польшчаю ды Беларусьсю. Сп.Тышкевіч піша, што ў гэтым наш супольны «абавязак перад гісторыяй, якой ня могуць навучаць дэмагогі і шавіністы міністры, а таксама суседзкі абавязак двух народаў, якіх ня могуць пасварыць «дэзы» чужой прапаганды, варожай абодвум нашым народам, нашаму сувэрэнітэту і незалежнасьці».

**С.М.**

# Бадакова зьнялі

Скончылася доўгае змаганьне паміж рэктарам Гарадзенскага дзяржунівэрсытэта сп.Бадаковым, які доўгі час займаў гэтую пасаду, ды групаю выкладчыкаў, сярод якіх некалькі прафэсараў з факультэта беларускай філялёгіі і культуры. Паміж сабою яны не сышліся ў поглядах на беларусізацыю ўнівэрсытэту. Рэктар лічыў, што ўсё адбываецца як мае быць, працэс нельга прысьпешваць. Каб захаваць факультэт расейскай філялёгіі ды пакінуць за ім вядучую ролю, рэктар утварыў сёлета гэтак званы факультэт філялёгіі **народаў** Беларусі.

Канфлікт атрымаў шырокі розгалас. Бадакоў, аднак, пачуваўся ўпэўнена, змагаўся зь беларусістамі старымі, спраўджанымі мэтадамі. Здавалася, што ягонае становішча вельмі трывалае. Аднак днямі Бадакова выклікалі ў Менск у Міністэрства адукацыі, дзе прапанавалі напісаць заяву на звальненьне «паводле ўласнага жаданьня», што сп. рэктар і выканаў.

**С.М.**

# Літаратурная дзесятка

**Рэдакцыя газэты НАША НІВА правяла «літаратурнае апытаньне», разаслаўшы сваю анкету людзям розных пакаленьняў і поглядаў.**

Рэспандэнты мусілі назваць дзесяць лепшых, на іхнюю думку, пасьляваенных беларускіх кніжак. Рэдакцыя атрымала больш за 60 адказаў. У першую дзесятку ўвайшлі:

1. У.Караткевіч
2. А.Разанаў
3. В.Быкаў
4. Л.Геніюш
5. Я.Брыль
6. М.Стральцоў
7. А.Сыс
8. В.Адамчык
9. Р.Барадулін
10. І.Мележ

Падрабязнасьці гэтага апытаньня надрукаваны ў апошнім (№17) выпуску НАШАЙ НІВЫ.

# Шалом!

**Бэлла Кіржнер і Ціка Фатал, навуковыя супрацоўнікі вядомага інстытута Яд ва-Шэм, які дасьледуе гісторыю генацыда яўрэяў у часы Другой сусьветнай вайны, тры тыдні працавалі ў архівах Беларусі. Ізраільскія навукоўцы ўпершыню атрымалі доступ да многіх унікальных дакумэнтаў.** І.Б.

# “МАЯ ГІСТОРЫЯ”

## Вольга Корбут пачала друкаваць свае ўспаміны

**Алімпійская чэмпіёнка ў гімнастыцы Вольга Корбут жыве цяпер у Амэрыцы, вучыць спартоваму майстэрству амэрыканскіх дзяцей. Там існуе спартовая школка, названая на яе гонар. У другой палове лістапада нюёркская газэта «Новое русское слово» пачала друкаваць мэмуары Вольгі Корбут пад назовам «Мая гісторыя».**

В.Корбут піша, што была ў сям'і чацьвёртаю дачкой, хоць бацькі вельмі й вельмі хацелі сына. Называючы сваіх сёстраў лябёдкамі, сябе Вольга мянуе «брыдкім качанём». У Горадні Корбуты жылі на пляцы Леніна ў драўляным доме, шасьцёх туліліся ў 20-мэтровым пакоі. Аўтарка сьцьвярджае, што яны жылі хоць і весела, але ў галечы, пры гэтым асабліва падкрэсьлівае апошняе: «Упэўненая, што менавіта галеча, усьведамленьне якойсьці сваёй непаўнавартасьці разьвілі ўва мне асьліную натурыстасьць, калі не сказаць упартасьць, цудоўнае імкненьне быць першай, жаданьне зьдзіўляць і ўражваць, якое не мінае дагэтуль».

Далей славутая гімнастка прыходзіць да высновы, што характар, імкненьне нечага дамагчыся ў жыцьці гартуюць менавіта экстрэмальныя, нецяплічныя ўмовы, тая ж галеча. Пры гэтым прыводзіцца параўнаньне — «наведаўшы некалькі амэрыканскіх школаў, летніх лягераў, пазнаёміўшыся з маленькімі гімнасткамі, я пераканалася: няма ў іх тае апантанасьці ў працы, тае самааддачы, якая толькі і можа прывесьці да сапраўдных вынікаў». Хаця тут жа яна пагаджаецца, што штучна ствараць жабрацкія ўмовы існаваньня неразумна і ня варта.

Неаднаразовае нараканьне на жабрацкае жыцьцё, аднак, крыху бянтэжыць чытача з наступнае прычыны — Вольга Корбут піша, што яе бацька партызаніў, пускаў пад адхон цягнікі, быў паранены. У шпіталі пазнаёміўся з санітаркаю, зь якой яны пасьля пабраліся шлюбам. Пасьля сканчэньня вайны яго накіравалі ў Горадню другім сакратаром райкаму камсамолу. З успамінаў вынікае, што ён нават ледзьве не стаў «першым партыйным сакратаром», але запіў. Яшчэ праз два абзацы сьцьвярджаецца, што «пасьля вызваленьня Горадні бацька працаваў у гарвыканкаме, а мама шэф-кухарам у сталоўцы». Адным словам, з бацькавай пасадаю і дабрабытам сям'і атрымліваецца поўная блытаніна.

Не зусім пераканаўча выглядае і галеча іхняе сям'і. Аўтарка піша: «Бацька без асаблівай цяжкасьці мог, як савецкі начальнік, выбіць нам кватэру». Дапамогшы атрымаць кватэры дзесяткам сем'яў, «сам жыў у хаціне, дзе сям'я спала ўпокат». Думаецца, што сям'я партыйнага функцыянэра ды шэф-кухара магла існаваць зусім ня бедна. Іншая, канечне, рэч — пазьнейшае п'янства бацькі, забіраць якога зь піўной адпраўлялі малодшую дачку — Вольгу. Яна піша пра гэта так: «Цяпер ня цяжка зразумець, чаму бацька стаў піць. Ён, чалавек сумленны і разумны, ужо тады ўбачыў і зразумеў шмат з таго, што мы ўведалі і зразумелі толькі нядаўна: таталітарная дзяржава выдавала сябе за «народную», але дбала пра народ з дапамогаю моцнага, выдатнага апарату ўціску. Узьнікала шмат нявырашальных супярэчнасьцяў, зь якімі вельмі цяжка зьмірыцца сумленнаму чалавеку, які прайшоў праз вайну, ваяваў за «сьветлую будучыню», абяцаную камуністамі. Уголас ён пра гэта сказаць ня мог, але дзе падзецца?»

Вольга Корбут згадвае, што пасьля таго, як яна яшчэ школьніцаю стала алімпійскаю чэмпіёнкай, сям'і выдзялілі ў абкамаўскім доме трохпакаёвую кватэру. Потым ужо, пасьля замужжа, Вольга пераехала ў Менск, а кватэру вызвалілі, бо бацька не пажадаў у ёй заставацца, сказаўшы, што «гэта кватэра для вялікіх людзей».

Далей Вольга падрабязна распавядае, як у маленстве разам зь сябрамі крала ў гарадзкіх садах яблыкі «пад страхам дастаць у мяккае мейсца ладунак солі з дубальтоўкі» і нават аднойчы трапіла праз гэта ў дзіцячы пакой міліцыі.

Зразумела, чытачы зробяць з гэтых мэмуараў славутай беларускі свае высновы, але ў кожным разе відаць, што шлях Вольгі да Алімпу быў няпростым і супярэчлівым.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Спатканьне на радзіме

**У Смаргоні адбыўся музычны фэстываль-конкурс імя Міхала Клеафаса Агінскага.**

У ім узялі ўдзел маладыя выканаўцы зь Беларусі, Летувы, Польшчы, Францыі ды Італіі — краінаў, зь якімі былі цесна зьвязаныя жыцьцё і творчасьць вядомага кампазітара. Важкі ўнёсак у правядзеньне фэстывалю зрабіў рэгіянальны Саюз прадпрымальнікаў Смаргоні.

# Выставы ў Берасьці

**У Берасьці адбыліся дзьве цікавыя культурныя падзеі.**

У музэі абароны Брэсцкай крэпасьці ўпершыню адкрытая выстава, прысьвечаная баявым падзеям на тэрыторыі Берасьця ў верасьні 1939 г. Шмат хто пра гэта раней нават не здагадваўся. Упершыню створаная экспазыцыя распавядае пра тых, хто змагаўся ў Берасьці з фашыстамі ў верасьні 39-га года. Сярод іх, дарэчы, было і шмат беларусаў.

Другая падзея гарадзкога культурнага жыцьця — адкрыцьцё выставы Напалеона Орды. Упершыню на Беларусі выстаўляюцца працы гэтага славутага мастака, які паходзіць зь Берасьцейшчыны. 43 ягоныя літаграфіі, зробленыя больш за стагодзьдзе таму, выстаўленыя ў залях краязнаўчага музэя. Унікальнасьць і каштоўнасьць твораў Н.Орды найперш у тым, што мастак замаляваў тыя палацы, сядзібы, храмы дый многія іншыя забудовы, што ўжо даўно страчаныя для нас.

# Модныя шыльды

**Надышла чарга зьмены шыльдаў і ў навучальных установах Берасьця.**

Рашэньнем Берасьцейскага аблвыканкаму Берасьцейская музвучэльня пераўтвораная ў музычны каледж. Не адстаў і пэдінстытут. Вучоная рада прыняла рашэньне хадайнічаць перад Міністэрствам адукацыі аб рэарганізацыі Берасьцейскага дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту ў пэдагагічны ўнівэрсытэт. Пэдінстытут дагэтуль носіць імя А.Пушкіна. На чый гонар будзе названы ўнівэрсытэт? Прапанаваныя імёны Ігнатоўскага, Лаўрэнція Зізанія, а то й наогул — папросту пэдагагічны ўнівэрсытэт.

# Каложай зацікавіліся французы

**Помнік XII стагодзьдзя — Каложская царква ў Горадні — два гады таму перададзены праваслаўнай царкве.**

Цяпер у ім адбываюцца набажэнствы. Стан помніка, аднак, застаецца трывожным. У грунце пад ім фармуецца новы апоўзень. Аб'ектам зацікавілася рэстаўрацыйная фірма «Бляншон» з горада Ліможу, якая добра вядомая ва ўсёй Францыі сваёй адмысловай працай. Спэцыялісты фірмы хутка наведаюць Горадню, каб ацаніць стан Каложы.



© PDF: Kamunikat.org 2010

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Чэшская рэвалюцыя набірае тэмп

Нягледзячы на цяжкасьці, зьвязаныя з перагружанасьцю інфраструктуры ў часе шпаркіх фундамэнтальных зьменаў, Чэшская Рэспубліка цьвёрда намерана дасягнуць сваёй мэты — прыватызацыі ўсіх сэктараў эканомікі, якую калісьці цалкам кантралявала дзяржава.

У той час, як так званая праграма "буйнамаштабнай прыватызацыі" ўступае ў сваю другую фазу, на новай Пражскай фондавай біржы ўжо адбываюцца апэрацыі з акцыямі амаль тысячы нядаўна прыватызаваных фірмаў. Зараз чэшскія грамадзяне выкупляюць акцыі яшчэ 770 прадпрыемстваў з дапамогай унікальнай сыстэмы ваўчараў, якая даказала сваю эфэктыўнасьць падчас першае хвалі прыватызацыі. Чэшскія ўлады прадказваюць, што **да канца 1994 г. больш за 90% уласнасьці краіны будзе ў прыватных руках,** хоць яшчэ ў 1989 г. 95% маёмасьці кантралявалася дзяржавай.

"Чэшская праграма прыватызацыі дасягнула фантастычнага посьпеху, — кажа Рычард Вуд, кіраўнік брокерскай кампаніі Wood & Co. — Пад канец наступнага года Чэхія будзе краінай з найбольшай доляй прыватнай уласнасьці ў Эўропе, хоць яшчэ некалькі гадоў таму гэта была краіна з амаль стопрацэнтнай дзяржаўнай уласнасьцю. Цяпер у чэшскі рынак каштоўных папераў штомесяц уліваецца блізу 70 млн. даляраў".

У Славакіі таксама адбываюцца падобныя працэсы прыватызацыі, хоць і ў меншых маштабах. Гандаль акцыямі на Братыслаўскай фондавай біржы распачаўся 1 ліпеня, г.зн. на 10 дзён пазьней, чым у Празе.

Аналітыкі мяркуюць, што "чэшскі цуд" стаўся магчымым дзякуючы наступным чыньнікам: добра прадуманаму, шматбаковаму пляну; падрыхтаванасьці насельніцтва да рынкавай эканомікі і асноваў акцыянаваньня; а таксама моцы разьмешчанай у сэрцы пасьлясавецкай Эўропы эканомікі, вялізны патэнцыял якой прымусіў гіганцкія карпарацыі з ЗША і Заходняй Эўропы зацята змагацца за мейсца на чэшскім рынку. Паміж студзенем 1991 г. і сакавіком 1993 г. сума прамых замежных інвэстыцыяў у Чэшскую Рэспубліку склала 1,86 млрд даляраў, прычым першыя пазыцыі займаюць такія амэрыканскія карпарацыі, як Procter & Gamble, Westinghouse, а таксама нямецкі вытворца аўтамабіляў Volkswagen AG.

Гісторыя чэшскай прыватызацыі пачалася ў 1990 г., калі ўпершыню за 41 год да ўлады прыйшоў дэмакратычна абраны, настроены на рынкавыя рэформы ўрад на чале з прэзыдэнтам Вацлавам Гавэлам. Неўзабаве пасьля гэтага была распрацаваная дэталёвая праграма прыватызацыі, якая ўключала чатыры асноўныя кампанэнты: вяртаньне былым уладальнікам або іх нашчадкам уласнасьці, канфіскаванае ў пэрыяд з 1948 да 1959 г.; вяртаньне ўласнасьці муніцыпалітэтам; праграма "малой прыватызацыі", што прадугледжвала продаж з аўкцыёнаў больш за 21000 малых прадпрыемстваў, накшталт як крамаў і рэстаранаў; і праграма "буйнамаштабнай прыватызацыі" вялікіх прадпрыемстваў з выкарыстаньнем сыстэмы ваўчараў, ідэя якой належала прэм'ер-міністру Вацлаву Клаусу.

Чэшская ваўчарная сыстэма прадугледжвае, што грамадзяне плоцяць намінальную суму 1035 кронаў ($34), якой якраз стае для пакрыцьця адміністрацыйных выдаткаў, за буклет з інвэстыцыйнымі купонамі, якія можна абмяняць на акцыі новапрыватызаваных прадпрыемстваў ці інвэстыцыйных фондаў. Буклеты для другой хвалі прыватызацыі паступілі ў продаж у паштовыя аддзяленьні па ўсёй Чэхіі 29 верасьня, і яны карыстаюцца ня меншым попытам, чым падчас першага этапу, калі 8 млн чэхаў і славакаў абмянялі свае ваўчары на акцыі вартасьцю 650 млрд кронаў.

Паводле *International Herald Tribune*

## Гадуцішкі: «дасягнутая дамоўленасьць»

(Пачатак на 1-й стар.)

Праблема магчымай перадачы Гадуцішак выклікала абурэньне рабочых і жыхароў гэтай станцыі. У калектыўным лісьце на імя Шушкевіча і Кебіча яны настойваюць «вярнуць ст. Гадуцішкі ў склад Беларускай чыгункі, як гэта было да 1 студзеня 1980 г.». Менавіта тады рашэньнем маскоўскіх чыноўнікаў гэтая беларуская станцыя была перададзеная ў распараджэньне тагачаснай Прыбалтыйскай чыгункі, якая зьнікла разам з СССР. Цяпер станцыя Гадуцішкі знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Летувіскай чыгункі. І вось што пішуць жыхары Гадуцішак: «Зараз да станцыі няма свабоднага пад'езду зь беларускага боку — стаіць летувіскі мытны пост. На Летувіскай чыгунцы ўведзена новая дакумэнтацыя на летувіскай мове. Да 1995 г. неабходна здаць іспыт на валоданьне гэтай моваю. У адваротным выпадку работнік будзе звольнены з працы. Мы — беларусы, і хочам працаваць на Беларускай чыгунцы»

Зразумела, «абяцанкі» Кебіча могуць нарадзіць канфлікт, але ніякай юрыдычнай сілы яны ня маюць. Праект дамовы аб межах, які зараз рыхтуюць беларускія і летувіскія экспэрты, мусіць быць зацьверджаны Вярхоўным Саветам. Мяркуючы па настроях, ні Апазыцыя, ні дэпутацкая большасьць (за выключэньнем абсалютна «безгаловай яе часткі») не прагаласуюць за перадачу Гадуцішак Летуве.

Пятро ПАНКРАТОВІЧ

# Як з Масквы трапіць у Калінінград?

### У дэбатах па гэтай праблеме пра Беларусь нават ня згадваюць

**Газэта летувіскіх апазыцыйных палітычных сілаў *Lietuvos aidas* піша, што "Летува павінна рашуча выказацца супроць спробаў пераканаць сьвет у тым, што Расея мае права на транзыт па тэрыторыі Летувы".**

Газэта сьцьвярджае, што Калінінградзкая вобласьць, ці Малая Летува, — гэта "спаконвечная летувіская зямля". Адзначаецца, што пасьля перадачы вобласьці паводле Патсдамскай канфэрэнцыі ў 1945 г. пад часовае кіраваньне СССР там "ажыцьцяўляўся найстрашнейшы генацыд, зьнішчаліся шэдэўры культуры, зьмяніліся ўсе летувіскія назовы".

*Lietuvos aidas* жорстка крытыкуе кіраўніка летувіскай дзяржаўнай дэлегацыі на перамовах з Расеяй Віргіліюса Буловаса ды цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі, якія, рыхтуючы дамову аб расейскім транзыце ў Калінінградзкую вобласьць па тэрыторыі Летувы, тым самым "здраджваюць інтарэсам Летувіскай дзяржавы".

*Lietuvos aidas* заяўляе, што Калінінградзкую вобласьць ад Расеі на сушы адзьдзяляе ня толькі Летува, але і Польшча, таму "Расея мае выдатную раўназначную альтэрнатыву — зносіны з Калінінградзкай вобласьцю праз тэрыторыю Польшчы".

Урэшце робяцца катэгарычныя высновы: "вайсковы транзыт Расеі праз тэрыторыю Летувы недапушчальны і раўназначны эскалацыі агрэсіі", Калінінградзкая вобласьць "павінна быць дэмілітарызаваная, яе лёс неабходна вырашыць праз пагадненьні паміж Расеяй, Летувой ды Нямеччынай".

# Бывай, НАТО!

### Аглядальнік польскага часопіса «Sukces» Казімеж Пытка тлумачыць, чаму Польшчу ды іншыя краіны Цэнтральнай Эўропы не чакаюць у НАТО.

Каму патрэбная Польшча ў НАТО? Мы ўжо дакладна ведаем, што ня Злучаным Штатам. Выдатна інфармаваныя журналісты «Washington Post» Роўланд Івэнс і Робэрт Новак паведамілі нядаўна чытачам пра зьмест паразуменьня Ельцын-Клінтан. Пакуль яно яшчэ вуснае, але на студзеньскай сустрэчы ў Маскве яно павінна зьявіцца ў пісьмовай форме. Ці будуць новыя «тайныя пратаколы»? Пабачым.

Але зараз нам ужо вядома, што амэрыканскі прэзыдэнт прызнаў за Расеяй статус прыдзьверніка ў НАТО і даў Маскве права накладаць вэта на рашэньні аб прыняцьці новых сяброў у Паўночнаатлянтычную арганізацыю. Болей за тое, сп.Клінтан намерыўся супрацьдзейнічаць спробам стварэньня блёку сярэднеэўрапейскіх дзяржаваў. Трэба прызнаць, што якраз у гэтым яму не давядзецца высільвацца, бо саюз Варшавы з Прагай, Браціславай ды Будапэштам чатыры сталіцы пасьпяхова старпэдуюць самі.

Інфармацыя ў «Washington Post», якая б яна ні была непрыемная, не павінна выклікаць зьдзіўленьня. Пра палітыку Клінтана ў дачыненьні да Эўропы прывыклі гаварыць, што гэта — суцэльная паласа памылак. Аднак апошнім часам усё выразьней відаць, што гаворка тут ідзе не пра памылкі, а пра наўмысны і запраграмаваны недахоп палітыкі (што, зрэшты, дэкляравалася яшчэ падчас перадвыбарчай кампаніі). Эўропа папросту перастае амэрыканцаў хваляваць, сытуацыю тут мусіць рэгуляваць — як і ў былой Югаславіі — свабодная гульня сілаў і нябачная рука палітычнага рынку. Хутчэй за ўсё гэта будзе расейская рука, што Вашынгтону не замінае, бо ягоная ўвага цалкам пераносіцца ў раён будучага — на беразі Ціхага акіяну. Доказам гэтаму служыць актыўнае і выніковае імкненьне Клінтана да ратыфікацыі дамовы NAFTA (паўночнаамэрыканскае пагадненьне аб свабодным гандлі).

Вядома, ніводзін палітык ня можа проста сказаць, што нешта яго не цікавіць. Менавіта таму Вашынгтон калі-нікалі абвяшчае ініцыятывы, да якіх ня мае ні сэрца, ні перакананьня. Возьмем, напрыклад, праекты зьняцьця эмбарга на дастаўку зброі ў Босьнію або «партнёрства дзеля міру». Калі б ня факт, што пад гэтым праектам падпісаўся Біл Клінтан, можна было б падумаць, што ўваскрос Леанід Брэжнеў са сваімі незьлічонымі «мірнымі ініцыятывамі». Пафас гэтых канцэпцыяў і шанцы на іхнюю рэалізацыю ідэнтычныя.

Публікацыя ў «Washington Post» шакіруе, але нядаўна падобны тэкст апублікавалі «Известия». Гэтая газэта — нішто іншае як друкаваныя вусны Ельцына. І вось якая заява прагучала з гэтых вуснаў: «Краіны Цэнтральнае Эўропы чакае вялікае расча-



раваньне. 10 студзеня, на сустрэчы ў Брусэлі, будуць адкінутыя ўсе іх заяўкі на прыняцьце ў НАТО». Чаму? Бо «ні для Заходняй Эўропы, ні для Расеі, ні тым больш для ЗША адносіны з Цэнтральнай Эўропай не зьяўляюцца прыярытэтам».

Груба, але шчыра. Усе тры элемэнты, згаданыя «Известиями», маюць амбіцыі глябальнае палітыкі. А калі глядзець на сьвет як на цэласьць, то сапраўды цяжка заўважыць такія дробязі, як Польшча. Затое відаць Расею. І не без прычыны нядаўна было сказана ў Брусэлі, што Заходняя Эўропа імпартуе з Расеі ў 27 разоў болей за Злучаныя Штаты і ў 8 разоў больш за Японію. Нашто гэта ўсё гаворыцца? Каб іншыя зразумелі, што калі амэрыканцы ня хочуць дражніць Расею, то, напэўна, ня зробіць гэтага і Захад, які можа страціць у такіх варунках значна больш.

Гэтага таксама ніхто ня скажа адкрыта, бо ўжо з часоў Макіявэлі палітыка Захаду абапіраецца на нюансы, гульню словаў і дыпляматычнае пазьбяганьне прамых адказаў. Той, хто давярае цьмяным абяцаньням — такім, як выказаныя нядаўна ў Варшаве міністрамі замежных справаў Францыі і Нямеччыны заявы пра «магчымасьць уступленьня ў НАТО пасьля выкананьня пэўных умоваў», — ня проста робіць памылку, а выяўляе сваю наіўнасьць. Бо калі паглядзець разважліва, цяжка знайсьці прычыну, якая змусіла б НАТО распачаць канфлікт з Расеяй. Гэтая арганізацыя ня мае зараз ніводнага ворага, які б мог ёй рэальна пагражаць. На яе не нападуць ні Садам Хусэйн, ні іранскія фундамэнталісты, ні Кім Ір Сэн. Адзіным сур'ёзым праціўнікам можа быць толькі Масква. Можа, але не павінна: зь ёй дастаткова штодня гуляць у новую Ялту.

Гэтая гульня мае надзвычай вялікую стаўку. Немцы, ідучы ўсьлед за амэрыканцамі, стараюцца зарэзэрваваць для сябе мейсца ў будучым прамыслова-фінансавым цэнтры сьвету на Ціхім акіяне. Як заўсёды пэдантычныя, яны ўжо загадзя падрыхтавалі «Асновы азіяцкае палітыкі», дзе асаблівая ўвага надаецца Кітаю, Японіі і... расейскаму Далёкаму Ўсходу. Адная паездка Коля ў Пэкін прынесла кантрактаў на суму 5 млрд. даляраў, што складае амаль увесь гадавы экспарт Польшчы. Так выглядае сьвет у глябальным вымярэньні. Валавы нацыянальны прадукт краінаў NAFTA перавышае 6 більёнаў даляраў. Параўнайце гэта з 40-мільярдным польскім доўгам і не зьдзіўляйцеся, што ў гульні магутных максымум, што нам адводзіцца, — гэта роля пешкі.

Амбіцыі немцаў не канчаюцца на эканоміцы. Яны ўжо не хаваюць, што мараць пра сталае мейсца ў Радзе Бясьпекі. А бяз згоды Расеі ім яго не атрымаць. Такім чынам, Масква мае ня толькі цьвёрды кій (атамную дубінку), але таксама й салодкую моркву. Узмацненьня пазыцыі Нямеччыны не жадаюць Францыя, уцягнутая да таго ж у спрэчку з ЗША, і Англія, якія, шукаючы хаўрусьнікаў, змушаны фліртаваць з Расеяй. Відавочна, што Польшча пры гэтым ім не патрэбная ні як палітычны партнэр, ні як вайсковы, ні як гаспадарчы. Такім чынам... бывай, НАТО!



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## Высакародны міністр

**«Лідская газета» надрукавала нататку «Высакародны ўчынак міністра» — пра тое, як міністр сувязі і інфарматыкі Іван Грыцук асабіста дапамог сям'і Юшэвічаў зь вёскі Сьвербуты Лідзкага раёну.**

У гэтай сям'і гадуецца сямёра дзяцей, але ў хаце няма тэлефона. Пра гэта даведаўся сам міністр, і «у парадку выключэньня Іван Міхайлавіч распарадзіўся правесьці ў дом Юшэвічаў тэлефон па меншым, чым прадугледжана тарыфам, кошце». Во гэта міністр дык міністр!

## Ашуканец скраў ордэны і мэдалі

**Гарадзенская міліцыя склала фотаробат ашуканца, які за адзін толькі дзень скраў 7 ордэнаў і 5 мэдалёў.**

Злачынца наведваўся ў кватэры вэтэранаў пад выглядам працаўніка сацзабесьпячэньня, ваенкамату альбо энэрганагляду (?!). Ен спраўджваў дакумэнты і нумары ўзнагародаў, нібыта дзеля выяўленьня «ліпавых» вэтэранаў. Такім парадкам гэты чалавек абакраў шасьцёх удзельнікаў вайны.

## Барацьба з п'янствам не спыняецца

**У Слонімскім раёне абвясьцілі месячнік барацьбы з п'янствам пад назовам «Аперацыя Бахус».**

Мясцовую міліцыю зразумець можна — сёлета было каля 800 выпадкаў, калі аматары выпіць, кульнуўшы чарку-другую, кідаліся біцца, і такія бойкі часьцяком скончваліся сумна. Калі-нікалі перападала і самім міліцыянтам. З другога боку, за гэты ж пэрыяд з «наведнікаў» раённага выцьвярэзьніка ды самагоншчыкаў спагналі 2,5 млн. рублёў — хоць нейкі прыбытак!

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

SALES AGENT FOR AUTOS AND SECRETARY

WE ARE AN AMERICAN SPECIALTY VEHICLE AND PARTS COMPANY AND WILL ESTABLISH AN OFFICE IN MINSK. WE WANT TO HIRE A **SECRETARY** AND A RELIABLE SALES REPRESENTATIVE BASED ON FIXED SALARY PLUS COMMISSION. APPLY BY FAX TO: 1-407-679-2529;

*GLOBAL 2000 INC*, 130 UNIVERSITY PARK DR, WINTER PARK, ORLANDO, FLORIDA 32792
* USA * PHONE: 1-407-671-7100

ЭМАЛЬ

**Афіцыйны дылер «УКРЛАКОФАРБА»**

*прапануе ў неабмежаванай колькасьці*

**лакі, эмалі, фарбы, грунтоўкі, шпаклёўкі, клей**

Масква, вул. Планетная, 26 (мэтро «Дынама»).

Для карэспандэнцыі: 129010, Масква, а/с 84.
Тэлефон: (095) 155-9012, 152-8196.
Тэлефакс: (095) 151-5908.

# Прашу мяне пасадзіць ...

Грамадзяне былога СССР змагаюцца за мейсцы ў скандынаўскіх турмах і асяродках для шукальнікаў прытулку

**Швэдзкая прэса б'е ўва ўсе званы: усё большыя групы гасьцей з Усходу, асабліва моладзі з Эстоніі ды Расеі, выкарыстоўваюць скандынаўскія законы, каб наладзіць сабе бясплатны адпачынак.**

Сышоўшы з талінскага або пецярбургскага парома, маладыя людзі просяць палітычнага прытулку. Нягледзячы на тое, што ў 99,9% выпадкаў яны ня маюць ніякіх шанцаў на атрыманьне права знаходжаньня ў краіне, дзейнае заканадаўства прадугледжвае зьмяшчэньне іх у асяродкі для ўцекачоў, дзе, апрача начлегу, яны атрымліваюць неблагое харчаваньне. Пакуль іхныя заявы разглядаюць, мінае некалькі тыдняў або нават месяцаў, а тым часам кандыдаты на палітычны прытулак жывуць сабе з усімі выгодамі за кошт швэдзкага падаткаплацельшчыка. Калі час іхнага знаходжаньня ў лягеры перавышае адзін месяц, ім выплочваюцца таксама кішэнныя грошы ў памеры некалькіх сотняў крон. Шмат хто яшчэ й падрабляе чорнай працай.

Асабліва непакоіць швэдаў матар'ялы-інструкцыі, што ўсё часьцей і часьцей зьяўляюцца ў эстонскім друку ды інфармуюць чытачоў, як найлацьвей арганізаваць сабе такі адпачынак у Скандынавіі. Некаторыя эстонскія газэты, напрыклад, рэкамэндуюць пэўныя асяродкі для ўцекачоў у Даніі, якія славяцца надзвычай добрай кухняй.

Шмат якія лягеры становяцца кантактовымі пунктамі для расейскай ды балтыцкай мафіі, што ўсё мацней беруць у абдымкі Скандынавію. Апрача таго, такія асяродкі — яшчэ адна крыніца сталага прыбытку для рэкету. У час выплатаў кішэнных, напрыклад, у лягеры зьяўляюцца «інкасатары», якія «страсаюць» набытак сваіх жа землякоў.

На думку паліцыі, адзіным разьвязаньнем гэтае праблемы можа быць салідарнае прызнаньне ўсімі скандынаўскімі дзяржавамі, што Расея і тры прыбалтыйскія краіны больш не ўяўляюць небясьпекі дзеля правоў чалавека, ды выдаленьне ўсіх прыхадняў з гэтага рэгіёну.

Але гэта ўсё ж ня вырашыць іншай эпідэміі — фальшывых вязьняў. Шмат хто з кіроўцаў наўмысна напіваецца і, пасьля затрыманьня паліцыяй, ідзе за краты на колькі месяцаў. Швэдзкія турмы вядомыя сваімі камфортнымі ўмовамі, адзіночнымі камэрамі з тэлевізарамі, шматлікімі экскурсіямі і спартовымі адпачынкамі. Апрача таго, там можна легальна працаваць, ашчаджаючы за тры месяцы суму, роўную трохгадоваму заробку ўдома. Швэдзкае Міністэрства юстыцыі хацела б выдаляць такіх злачынцаў для адседкі на радзіму. Аднак для гэтага патрэбныя адпаведныя пагадненьні з зацікаўленымі дзяржавамі, якія пакуль што ня надта гараць жаданьнем гэткія дакумэнты падпісваць.

*Gazeta Wyborcza*

Газэта **БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР**

*Падпіску можна аформіць паштовым пераказам (адвольная сума грошай, зь якой будзе вылічвацца кошт дасланых Вам газэтаў і паштовых выдаткаў) на адрас:* **211030, Віцебская вобласьць, г.Ворша, вул.Флёрава, 7—16, сп.Алесю Сярожкіну**

**За кадрам**

**Практычна ўсе беларускія штодзённыя газэты з захапленьнем паведамілі пра дэманстрацыю мадэляў Усяпольскай палаты модаў, якая паказвала сваю калекцыю адзеньня ў Менску ў сераду 24 лістапада. Відаць, падзея была сапраўды вартая ўвагі, калі нават «дзяржаўныя мужы» адклалі справы вялікай палітыкі ды ірванулі ў Дом мод. Ня ведаем, як хто, а Іван Каратчэня (нардэп ВС, выканаўчы сакратар СНД), якога вы бачыце на гэтым здымку нашага фотакарэспандэнта, быў, здаецца, задаволены відовішчам.**



*American businessman, 40, loving and cheerful, seeks younger lady for correspondence and friendship leading to marriage.*

*Photo, letter to:*

*Bryan Hunter, 817 Johns Rd, Augusta GA 30904, USA*

INTERNATIONAL PROFESSIONAL AND STUDENT JOURNALISM PROGRAMS

The Freedom Forum International Professional and International Student Journalism Programs will bring international journalists, educators and students from Asia, Central and Eastern Europe, and Mexico to the United States for educational training and professional development in journalism at selected U.S. universities. The Freedom Forum will cover all costs including travel, tuition, fees, housing and stipend.

WHO MAY APPLY: Working journalists or journalism educators in early to mid-career or students enrolled in a journalism degree program at an academic university. Applicants must have a working knowledge of written and spoken English and little or no travel experience in the U.S.

HOW TO APPLY: Applications may be obtained from the U.S. Embassy and your university's journalism program.

ABOUT THE FREEDOM FORUM: The Freedom Forum is a nonpartisan, international organization dedicated to free press, free speech and free spirit for all people. It does not solicit or accept contributions and is supported entirely by an endowment established by Frank E. Gannett in 1935 that has grown to more than $720 million in diversified, managed assets.

Deadline for applications: December 31, 1993

THE FREEDOM FORUM
FREE PRESS. FREE SPEECH. FREE SPIRIT.
1101 WILSON BOULEVARD, ARLINGTON, VA 22209

For applications contact SVABODA's office (56, Ivanauskaya St., Miensk)



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 14.12.93. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1763 Наклад 20 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010